Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВіНЫ
Наклад 12 950.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Аўторак, 10 лютага 1998 г. № 11 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Пікет у абарону маладых палітвязняў



Пікет у абарону Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Кабанчука адбыўся ў мінулую нядзелю ў Мінску.

Варта адзначыць незвычайную масавасць для такога роду акцыяў — у ёй прынялі ўдзел каля ста пікетоўшчыкаў. «Свабоду палітвязням!», «За свабоду трэба змагацца», «Беларусь — наша маці» — гэтыя і іншыя лозунгі трымалі ў руках пікетоўшчыкі. Пікет быў дазволены Мінгарвыканкамам і прайшоў без эксцэсаў і перашкодаў з боку міліцыі.

А тым часам справа маладых палітвязняў набліжаецца да суда: працэс над Вадзімам Лабковічам і Аляксеем Шыдлоўскім пачнецца 18 лютага ў мінскім абласным судзе. Старшынёй судовай калегіі будзе суддзя Уладзімір Лаўроў.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН ён паведаміў, што справа не ўяўляецца яму занадта складанай і яе, па сутнасці, павінен быў разглядаць раённы суд, калі б не інкрымінаваны Лабковічу і Шыдлоўскаму арт. 186² Крымінальнага кодэкса — «Здзек над дзяржаўнымі сімваламі». В.Лабковіч і А.Шыдлоўскі абвінавачваюцца таксама па арт. 201, ч.2 — злоснае хуліганства і арт. 225 — «Знішчэнне або пашкоджанне гісторыка-культурных каштоўнасцяў». Так следства кваліфікавала некалькі антыпрэзідэнцкіх надпісаў на сценах дамоў у г.Стоўбцы, зняты з даху райвыканкама дзяржаўны сцяг, расфарбаваныя фарбай помнікі У.Леніну і Ф.Дзяржынскаму. Суддзя паабяцаў, што слуханні па справе пройдуць публічна.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Місія АБСЕ прыбыла ў Мінск

**Напярэдадні мінулага тыдня ў Мінск прыбылі прадстаўнікі назіральнай групы АБСЕ.**

Кіраўнік групы Ханс-Георг Вік (ФРГ), а таксама Ханс-Пэтэр Кляйнэр (Швейцарыя) і Александру Ботар (Румынія) размясціліся ў гатэлі мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра *IBB*. Чацвёрты прадстаўнік АБСЕ — Марк Скоўгаард з Даніі — далучыцца да калег у пачатку сакавіка. Як паведамілі нам у прэс-службе МЗС, чакаецца прыезд яшчэ аднаго эксперта, грамадзяніна ЗША.

У пятніцу, 6 лютага, спадар Ханс-Георг Вік сустрэўся з міністрам замежных справаў Іванам Антановічам. Як гаворыцца ў прэс-рэлізе МЗС, прадстаўнікі АБСЕ будуць кансультаваць беларускія ўлады ў пытаннях *«развіцця дэмакратычных інстытутаў у Беларусі»*. Антановіч запэўніў, што ўлады Беларусі гатовыя да дыялогу і ўважліва аднясуцца да рэкамендацыяў і пажаданняў. На 27 лютага плануецца афіцыйнае адкрыццё місіі АБСЕ ў Мінску, на якое павінен прыбыць дзеючы старшыня АБСЕ, міністр замежных справаў Польшчы Браніслаў Герэмэк.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Візіт ліванскага міністра

**Беларусь у знешняй палітыцы яўна выразна «асвоіць» увесь арабскі свет.**

5-7 лютага на чале вялікай дэлегацыі палітыкаў, эканамістаў, бізнесменаў міністр замежных справаў Лівана Фарыс Буэйз наведаў Беларусь з афіцыйным візітам. Буэйз запэўніў журналістаў, што Ліван хоча «стаць з Беларуссю сябрамі, улічваючы геапалітычнае становішча Беларусі».

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ**

## Беларускія ўлады пасварыліся з Польшчай

*Пасол Беларусі адкліканы з Варшавы*

**На мінулым тыдні нечакана абвастрыліся дачыненні Беларусі з Польшчай. Ініцыятар канфлікту — афіцыйны Мінск — абвінаваціў Варшаву ў недружалюбных дзеяннях і ў знак пратэсту адклікаў з Польшчы беларускага пасла Віктара Бурскага.**

Міністр замежных справаў Іван Антановіч на брыфінгу 5 лютага выклаў шэраг прэтэнзіяў да польскіх уладаў. Па-першае, Мінск расцэньвае як недружалюбны акт увядзенне Польшчай новых правілаў перасячэння мяжы. Па-другое, абвінавачвае польскі бок ва ўмяшальніцтве ва ўнутраныя справы Беларусі (маючы на ўвазе правядзенне семінараў з удзелам беларускай апазіцыі). І трэцяе: незадаволены тым, што польскі міністр замежных справаў Браніслаў Герэмэк збіраецца прыехаць у Мінск не як прадстаўнік Польшчы, а выключна ў якасці старшыні АБСЕ (Польшча цяпер узначальвае гэтую арганізацыю). Тым часам беларускі бок хоча гаварыць з Герэмэкам найперш як з польскім міністрам і галоўным чынам пра двухбаковыя адносіны. Калі Польшча з гэтым не пагодзіцца, *«то мы не бачым мэтазгоднасці ў падобным візіце»*, — пагрозліва заявіў Антановіч.

Візіт Браніслава Герэмэка запланаваны на 27 лютага і звязаны з пачаткам дзейнасці ў Беларусі назіральнай групы АБСЕ. Хутчэй за ўсё менавіта з-за гэтага беларускае кіраўніцтва і вырашыла пайсці на абвастрэнне дачыненняў з Польшчай. Як лічаць назіральнікі, Мінск хоча абмяркоўваць другарадныя праблемы (прычым, надуманыя), адсунуўшы на задні план галоўную мэту візіту старшыні АБСЕ.

Антановіч абвінаваціў Польшчу нават у тым, што на яе тэрыторыі наша апазіцыя нібыта *«рыхтуецца да захопу ўлады ў Беларусі»*. Іван Іванавіч зноў прыгадаў нядаўні семінар у Беластоку, які быў арганізаваны адукацыйным цэнтрам «Польшча — Беларусь». Па версіі Антановіча, там *«абмяркоўваліся акцыі дэстабілізацыі прэзідэнцкай улады ў Беларусі»*. Польскі бок спакойна адрэагаваў на такое абсурднае абвінавачванне.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Адказ з Варшавы

*«Мы спакойна глядзім на польска-беларускія адносіны, таксама як і на нечаканыя, а часам і агрэсіўныя паводзіны беларускага боку, маючы надзею, што гэта з'явы часовыя»*, — сказаў Браніслаў Герэмэк, каментуючы выказванне Івана Антановіча аб тым, што Польшча ўмешваецца ва ўнутраныя справы Беларусі.

*«Польшча з'яўляецца сёння дэмакратычнай краінай, у якой недзяржаўныя арганізацыі могуць арганізоўваць любыя адукацыйныя канферэнцыі і семінары»*, — зазначыў польскі міністр. Урад Польшчы, сказаў ён, не будзе перашкаджаць падобным ініцыятывам, акрамя таго, не будзе мець нічога супраць, калі ў Беларусі будуць праводзіцца падобныя спатканні і семінары. *«Мы жадаем мець як мага лепшыя адносіны з Беларуссю, але занепакоены яе імкненнем да самаізаляцыі»*, — дадаў кіраўнік дыпламатычнай службы Польшчы. Адносна планаванага візіту на Беларусь у якасці шэфа АБСЕ Браніслаў Герэмэк сказаў, што ён не бачыць прычынаў, каб гэты візіт залежаў ад якіх-небудзь умоваў, і спадзяецца, што візіт усё ж такі адбудзецца. Герэмэк некалькі разоў падкрэсліў, што ў Мінску ён будзе прадстаўляць менавіта АБСЕ, а не польскі бок.

На пытанні журналістаў пра абвінавачванні шэфа беларускага КДБ Уладзіміра Мацкевіча, што Польшча пашырае шпіёнскую дзейнасць на Беларусі, адказаў, што жадаў бы захаваць спакой ды не рэагаваць на заявы генералаў службаў бяспекі.

**Янка ЧУРЫЛОВІЧ**

## У Баршчэўскага не знайшлі нічога каштоўнага

**Поўным фіяска завяршылася спроба апісаць хатнюю маёмасць Лявона Баршчэўскага.**

У мінулую пятніцу судовыя выканаўцы прыйшлі ў кватэру Баршчэўскага апісваць маёмасць, але мусілі скласці акт, што «няма рэчаў, якія могуць быць сканфіскаваныя і прададзеныя з прыбыткам».

З Лявона Баршчэўскага казна Беларусі імкнецца атрымаць 30 мільёнаў рублёў — такі штраф даў лідэру Народнага Фронту суддзя Цэнтральнага суда А.Барысёнак. Як і некаторых іншых палітыкаў, ён пакараў Л.Баршчэўскага за ўдзел у шэсці 23 лістапада, калі калона дэманстрантаў на сто метраў адхілілася ад вызначанага ўладамі маршруту. Баршчэўскі лічыць сябе невінаватым і адмовіўся плаціць 30 мільёнаў. Тады ўлады вырашылі спагнаць з яго грошы шляхам канфіскацыі маёмасці. Аднак у аднапакаёвай кватэры, дзе Баршчэўскі жыве разам з жонкай і двухгадовай дачкой, акрамя неабходнай для трох чалавек мэблі і старога тэлевізара, нічога каштоўнага судовыя выканаўцы не знайшлі.

Лявон Баршчэўскі, аднак, упэўнены, што ўлады ад яго не адчэпяцца. «Хоць па «кавалку», але яны будуць адкусваць ад майго месячнага заробку, пакуль не праглынуць усе гэтыя 30 мільёнаў», — кажа Баршчэўскі, адзінай крыніцай даходу якога з'яўляецца зарплата выкладчыка ліцэя.



*Лявон Баршчэўскі.*

Дарэчы, у той жа дзень выканаўчы ліст на спагнанне 40 мільёнаў штрафу атрымаў і адказны сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Старавойтава выпусцяць?

**Былы старшыня «Рассвета» Васіль Старавойтаў, які ўжо тры месяцы знаходзіцца ў следчым ізалятары КДБ, накіраваў на імя кіраўніка следчай групы Леаніда Глухоўскага хадайніцтва аб змяненні меры стрымання.**

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН сам Глухоўскі, Васіль Старавойтаў нібыта цалкам прызнае сваю віну, раскайваецца і просіць вызваліць яго пад падпіску аб нявыездзе.

Мы звязаліся з адвакатам Старавойтава Валерыем Ярчаком. Па яго словах, Старавойтаў прызнаў, што ў 1995 г. за сродкі «Рассвета» аплаціў выраб на бабруйскім прадпрыемстве «Фандок» камплекта дачнай мэблі коштам 85 мільёнаў рублёў для былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава. Апошні ж грошы калгасу не вярнуў. Версіі аб магчымым дачыненні Старавойтава да забойства Яўгена Мікалуцкага, а таксама аб выкарыстанні ім дзяржаўнага крэдыту ў 30 мільярдаў рублёў у карыслівых мэтах, па словах адваката, следствам адхіленыя.

Як сказаў В.Ярчак, Васіль Старавойтаў пакутуе ад шэрагу хранічных захворванняў, якія абвастрыліся ва ўмовах турэмнага зняволення. 73-гадовы двойчы герой сацыялістычнай працы сядзіць у адной камеры з чалавекам, які падазраецца ў забойстве. Сусед па камеры паводзіць сябе вельмі бесцырымонна: даходзіла нават да таго, што ён з'ядаў харчовыя перадачы Старавойтава, калі апошняга выводзілі на допыт ці сустрэчу з адвакатам. На думку адваката, утрымліваць далей пад вартай старога заслужанага чалавека няма ніякага сэнсу, а так званы крадзеж у асабліва буйных памерах больш слушна было б вызначыць як своечасова не аплачаную звычайную гаспадарчую здзелку.

На мінулым тыдні кіраўнік следчай групы Леанід Глухоўскі сустрэўся з Лукашэнкам і праінфармаваў яго аб ходзе расследавання крымінальных справаў Старавойтава і Лявонава. Па словах адваката Ярчака, прэзідэнт нібыта прыняў раскаянні Старавойтава і не супраць таго, каб яго выпусцілі на свабоду. Валерый Ярчак не выключае, што ягоныя падабароны можа быць вызвалены на працягу бліжэйшых 10 дзён.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

 



## Марныя спадзяванні

**Як мінімум чатыры еўрапейскія дзяржавы «праяўляюць цікавасць» да Саюза Беларусі і Расіі.**

Пра гэта, каменціруючы заявы Лукашэнкі адносна магчымага далучэння Югаславіі да Саюза, паведаміў на брыфінгу міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч. Праўда, якія менавіта краіны, міністр не ўдакладніў. Што ж да ўступлення ў Саюз Югаславіі, то, па словах беларускага міністра, падчас візіту прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, *«з абодвух бакоў — з югаслаўскага і з беларускага — гэтая тэма гучала»*. Пытанне гэтае зараз «вывучаецца» зацікаўленымі бакамі.

*«Наш Саюз адкрыты для ўсіх краін, якія хацелі б у ім удзельнічаць і прымаюць арганізацыйныя, палітычныя і прававыя прынцыпы Саюза»*, — падкрэсліў кіраўнік беларускай дыпламатыі.

## Шведы едуць на Беларусь

**Вядомы шведскі канцэрн Volvo мае намер адчыніць у Беларусі свае прадстаўніцтва.**

Адпаведныя дакументы ўжо знаходзяцца на рэгістрацыі ў міністэрстве знешніх эканамічных зносінаў, паведаміў гандлёвы саветнік Швецыі ў Беларусі Ян Улаф Нюстрам. Прадстаўніцтва *Volvo* плануе пашырыць сетку сервіснага абслугоўвання аўтамабіляў гэтай маркі, якія ўжо ёсць у Беларусі, а таксама ажыццяўляць пастаўку беларускім перавозчыкам сваіх грузавікоў на ўмовах лізінгу. Плануецца таксама адкрыццё пунктаў сервіснага абслугоўвання на трасе Брэст—Мінск па абслугоўванні транзітных перавозак. У перспектыве *Volvo* не выключае магчымасці стварэння з беларускім бокам сумеснай вытворчасці.

Дарэчы, у Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 14 прадпрыемстваў з удзелам шведскага капіталу і адкрыта 10 прадстаўніцтваў шведскіх фірмаў.

*БелаПАН*

# Пасябравалі з Хусейнам

**Міністэрства юстыцыі зарэгістравала новую грамадскую арганізацыю —Таварыства беларуска-іракскай дружбы.**

Сябраваць з краінай, лідэр якой Садам Хусейн ва ўсім свеце лічыцца дыктатарам і агрэсарам, збіраецца група беларусаў на чале з дэпутатам лукашэнкаўскага нацыянальнага сходу Валерыем Драко. На пасаду старшыні таварыства Валерый Драко трапіў, як ён сцвярджае, «па рэкамендацыі сяброў» (якіх канкрэтна — не сказаў).

Чым жа будзе займацца беларуска-іракскае таварыства? Сябраваць, упэўнена заяўляе Драко, але з дэталямі сяброўства ён пакуль не вызначыўся. «Паспрабую трапіць на прыём да Лукашэнкі, каб узгадніць пазіцыі», — паведаміў ён карэспандэнту НАВІНАЎ. Пасля сустрэчы з беларускім прэзідэнтам Драко разлічвае патрапіць у госці да Садама Хусейна.

Старшыня таварыства добра ведае, што пасланцы Беларусі ўжо неаднаразова бывалі ў Багдадзе, і таму не бачыць перашкод паўтарыць ужо наезджаны маршрут. «Гэта будзе цікава, бо пакуль ніжэй Кіева я не апускаўся», — кажа Драко. Мяркуючы па энтузіязме, з якім гэта было сказана, шанцы «апусціцца» значна ёсць.

Праўда, пакуль самому старшыні невядома, на якія сродкі будзе арганізаваны візіт да Хусейна. Уступныя складкі ў памеры 125 тысячаў рублёў «з носа» і 1.250 тысячаў з юрыдычнай асобы не дазваляюць разлічваць на вялікую скарбніцу. «Будзем шукаць спонсараў», — паведаміў старшыня.

Валерый Драко лічыць, што амерыканцы дарэмна прычапіліся да Хусейна. У тое, што Садам хавае ў сваіх палацах бактэрыялагічную зброю, таварыш Драко не верыць. Ён упэўнены, што іракскаму прэзідэнту можна даверваць, што ён і без прымусу пакажа ўсе аб'екты, якія хоча праверыць ААН. А таму, заключае кіраўнік таварыства, трэба хутчэй зняць з Ірака эканамічную блакаду, ад якой «цярпяць невінаватыя».

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

### Даведка

***Ірак — мусульманская краіна ў Паўднёва-Заходняй Азіі, 21 мільён насельніцтва. У 1968 г. у выніку перавароту да ўлады ў Іраку прыйшоў Садам Хусейн, які ў 1976 г. замацаваў свае кіруючае становішча перамогай на прэзідэнцкіх выбарах. Дагэтуль краіна фактычна ўвесь час ваюе. Спачатку з Іранам (за пяць гадоў вайны загінулі дзесяткі тысячаў іракцаў), потым з Кувейтам, куды ў жніўні 1990 г. Хусейн увёў 300-тысячнае войска. Каб вызваліць Кувейт, аб'яднаныя сілы розных краінаў свету на чале з ЗША па мандаце ААН на пачатку 1991 г. правялі вайсковую аперацыю пад назвай «Бура ў пустыні». Іракскі дыктатар вымушаны быў адвесці свае войскі, але захаваў уладу ў краіне. Яшчэ больш ён замацаваў свае пазіцыі пасля жорсткага падаўлення паўстання курдскай меншасці на поўначы і шыітаў на поўдні, у выніку чаго, па розных дадзеных, загінула ад 20 да 50 тысячаў чалавек. Садам Хусейн вядомы таксама сваімі распраўамі над унутранай апазіцыяй, пазбаўляючыся ад якой, ён не шкадуе нават сваякоў. Міжнародная супольнасць падазрае Хусейна ў тайнай вытворчасці зброі масавага знішчэння, але праверыць усе аб'екты, дзе могуць знаходзіцца склады гэтай зброі, іракскі дыктатар дагэтуль не дазваляе.***

# Мы яшчэ паваюем

## *Адвакаты Шарамета і Завадскага аспрэчваюць вынікі Ашмянскага працэсу*

**Адвакаты Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага аспрэчваюць прысуд, які вынес Ашмянскі раённы суд. На гэтым тыдні скарга адвакатаў разам з пратаколам працэсу павінны трапіць у Гродзенскі абласны суд.**

### Падставы

Суд не можа прымаць пад увагу доказы следства, сабраныя з парушэннем закона. Гэта адзін з асноўных, агульнапрынятых прынцыпаў сусветнага крымінальнага заканадаўства. Акрамя таго, ва ўсім свеце прынятая норма: суд абавязкова павінен рэагаваць на допушчаныя следствам парушэнні — у тым ліку ўзбуджэннем крымінальнай справы супраць тых, хто шукаў доказы любой цаной, насуперак праву.

Працэс па справе Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага ў гэтым сэнсе — цалкам процілеглы прыклад, лічаць адвакаты і грамадскія абаронцы журналістаў ОРТ.

### Кантора не толькі піша, але і сцірае

На думку абароны, для асуджэння Шарамета і Завадскага былі выкарыстаныя сфальсіфікаваныя доказы. Яскравы прыклад, лічаць адвакаты, — касета, на якой запісаны рэпартаж Паўла Шарамета з беларуска-літоўскай мяжы. Гэты доказ фігуруе ў справе пад назвай «касета Сідлецкага» і, як заяўляе абарона, з'яўляецца апорным. Ва ўсякім разе, фармальна, паводле афіцыйнай версіі, менавіта з гэтай касеты пачала раскручвацца «Справа Шарамета».

Памежнік Сяргей Сідлецкі мае званне сяржанта. Чын невысокі, па чыне і праца: Сідлецкі сядзіць за рулём службовага аўтамабіля, возіць кіраўніцтва Смаргонскага памежнага атрада, на тэрыторыі якога былі парушылі мяжу Шарамет і Завадскі. Па версіі следства, усё адбывалася быццам бы так: напярэдадні Сідлецкі купіў відэамагнітафон і якраз 23 ліпеня ўвечары вырашыў праверыць, як ён працуе. Сяржант падключае драты, укладае касету, націскае кнопку «Запіс» — а тут якраз па ОРТ паказваюць сюжэт з да болю знаёмымі краявідамі (якое супадзенне!). Бачыць сяржант родную мяжу, бачыць літоўскі КПП і раптам разумее, што нехта зняў гэты КПП з процілеглага, «варожага» боку. І вось разззлаваны на журналістаў памежнік нясе касету свайму начальніку падпалкоўніку Страху з просьбай разабрацца, бо — «вельмі за дзяржаву крыўдна».

Страх адрэагаваў — даручыў сваім падначаленым правесці дазнанне, вынікі якога перадалі ў пракуратуру. Пракуратура таксама адрэагавала належным чынам — узбудзіла крымінальную справу, якую даручылі весці следчаму гродзенскага КДБ Барысу Рагімаву. Малады следчы праявіў стараннасць — сабраў доказы ў шэсць тамоў і перадаў справу ў суд. Вынік суда мы ведаем: паўтара года ўмоўна Шарамету, год — Завадскаму. Але вернемся ў залу Ашмянскага суда.

На касеце Сідлецкага суддзі ўбачылі запісы іншых сюжэтаў, у тым ліку рэпартаж з сесіі беларускага парламента, які ОРТ перадаваць ну аніяк не магло. Значыць, версія «ўключыў запіс, і якраз праграма «Время» — не спрацоўвала. Даводзілася выклікаць сяржанта для тлумачэнняў. Раней ён сцвярджаў, што рабіў свой запіс на чыстай касеце, у судзе паўтарыў тое самае, а ад касеты, якую прадэманстравалі яму суд, — адмовіўся. Маўляў, не ягоная. Зрэшты, сяржант Сідлецкі выдаваў увогуле дзіўныя рэчы: ён «забыўся», колькі каштаваў ягоны відэамагнітафон, і не мог нават прыкладна назваць суму, якую ён «заплаціў у адным з мінскіх крамаў» за тэлевізар *Panasonic*, з якога запісваў рэпартаж Шарамета.

Але тады атрымлівалася, што галоўны рэчавы доказ падмянілі або падпалкоўнік Страх, якому Сідлецкі перадаў сваю касету раніцай 24 ліпеня, альбо памежнік Пашко, якому Страх даручыў правесці першае разбіральніцтва на мяжы, альбо следчы КДБ Рагімаў, які кампанаваў матэрыялы справы. Адказнасць узяў на сябе Пашко. Ён прызнаецца суду, што перапісаў сюжэт Шарамета з касеты, якая належала Сідлецкаму, на нейкую іншую, якую потым і перадаў следчаму. Мэту гэтых дзеянняў Пашко ніяк не патлумачыў: перапісаў — і ўсё. Што паступаў незаконна — разумее. Што не даклаў кіраўніцтву — прызнае. А на пытанне «Навошта рабіў?» — разводзіць рукамі. Дарэчы, у суд А.Пашко прыйшоў у новых пагонах — пасля затрымання Шарамета ён паспеў стаць капітанам.

Словам, уся гэтая гісторыя з касетай Сідлецкага аказалася шытая белымі ніткамі. Стала зразумелай логіка справы Шарамета. На думку тых, хто назіраў за працэсам, спачатку журналістаў абвінавацілі ў незаконным пераходзе мяжы, а ўжо потым, каб фармальна ўзбудзіць крымінальную справу, вынайшлі касету, быццам бы запісаную памежнікам Сідлецкім. Хутчэй за ўсё гэта спецслужбы перадалі следчаму Рагімаву касету з запісам. А потым, калі Сідлецкі «адмовіўся», вінаватым зрабілі «стрэлачніка» — памежніка Пашко. Ролю ж гэтую ён выканаў бездакорна і нават натхнёна.

### Прахадны двор

Аднак на гэтым «геройствы» памежнікаў і следчых не скончыліся. Тыя, хто вёў справу Шарамета, нарабілі яшчэ шмат недарэчнасцяў і парушэнняў, на якія адвакаты ўказваюць у апеляцыйнай заяве аб пераглядзе справы. Другі прыклад — касета з запісам першага «следчага эксперыменту» на мяжы.

На другі дзень пасля рэпартажу ОРТ памежнікі, прыхапіўшы службовую відэакамеру, кінуліся здымаць той самы кавалак мяжы, які быццам бы парушылі Шарамет і Завадскі. Іх цікавіла перш за ўсё, ці мог Завадскі зняць аб'екты літоўскага КПП, паказаныя ў сюжэце, не заходзячы на літоўскую тэрыторыю. Каб адказаць на гэтае пытанне, памежнікам самім даводзілася «схадзіць у Літву». А дазволу на гэта ад літоўцаў не было, і дзейнні нашых памежнікаў таксама трэба лічыць «парушэннем мяжы».

Але тады, 24 ліпеня, яны аб фармальнасцях не думалі. Выконвалі загад, дый толькі. Адвакаты падкрэсліваюць: дазволу ад літоўцаў на «эксперыментальны» пераход мяжы няма, а запіс парушэння ёсць. Так што на лаву падсудных трэба саджаць памежнікаў. Што ж рабіць?



*На здымку: Дзмітрый Завадскі і Павел Шарамет у момант абвяшчэння прысуду.*

Выйсце знайшлі высокамастацкае. Ужо ў судзе раптам высветлілася, што запіс «эксперыменту» за час знаходжання ў руках следчага Рагімава чамусьці сапсаваўся: людзі бегаюць з хуткасцю атамаў, размаўляюць як жабкі. Тое, што на экране памежнікі, — бачна. Відаць і тое, што яны ходзяць праз мяжу, як праз прахадны двор. Але з пункту гледжання закона такі сапсаваны запіс ужо нічога не варты. Ён знішчаны. Кім? Следчы Барыс Рагімаў прызнае, што рабіў перазапіс, і, атрымліваецца, сапсаваў касету. А пасля пакінуў яе ў матэрыялах справы. Суд не заўважыў парушэння.

### Ёсць шанцы на перамогу

Падобных відавочных «праколаў» у справе шмат. Спачатку абарона рабіла галоўную стаўку на тое, каб паказаць незаконнасць сабраных доказаў: спадзяваліся, што на гэтай падставе суд накіруе справу на дадатковае расследаванне. Пасля справа пачала на вачах асыпацца, і гаворку ўжо можна было весці аб апраўдальным прысудзе: у судзе не прагучала ніводнага доказу «пераходу мяжы».

Атрымліваецца, што адзіная крыніца, з якой следства прапануе суду зрабіць высновы аб вінаватасці Шарамета і Завадскага — гэта іх рэпартаж. А дакладней, тое, што некаторыя «пейзажы» маглі быць зняты толькі з літоўскай тэрыторыі. Хай сабе, казалі абвінавачаныя, але мы гэта не здымалі: кадры ўзялі з архіва супрацоўнікі ОРТ, якія рыхтавалі рэпартаж для эфіру. Гэта звычайная для тэлебачання практыка, калі словы журналіста ілюструюцца відэарадам, тлумачыў Павел Шарамет. Але дарэмна.

Адвакаты лічаць, што ў гэтай справе нават чыста працэсуальных парушэнняў дастаткова для перагляду таго вердыкту, які вынесла судовая калегія на чале з ашмянскім суддзёй Віталем Казакевічам. «Узяць хоць бы такі факт: да судовых спрэчак перайшлі ў адсутнасць аднаго з абаронцаў», — нагадвае адвакат Гары Паганяйла. Юрыст сцвярджае, што нават у судзе савецкіх часоў гэта было проста немагчыма, а калі і здаралася, то аўтаматычна вяло да адмены судовага рашэння.

Канечне, адвакаты асабліва не спадзяюцца на Гродзенскі абласны суд, хоць упэўненыя, што «падставаў для перагляду рашэння дастаткова». І усё ж абарона абяцае дамагацца апраўдання Шарамета і Завадскага, «пакуль не будзе пройдзены ўвесь прадугледжаны законам шлях». «Цяперашнія ўлады могуць не лічыцца з законам, але ў гэтай справе занадта многа парушэнняў, якія даюць нам шанцы на перамогу», — заяўляюць адвакаты.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## У Бабруйску ёсць «Мішпоха»

**У Бабруйску пачала выходзіць газета габрэйскай грамады «Мішпоха».**

Назва перакладаецца з ідыш як «сям'я». Выданне выпускаецца пакуль невялікім накладам. Яно асвятляе як старонкі мінулага габрэйскай дыяспары ў Беларусі, так і пытанні сучаснага жыцця габрэяў у нашай краіне.

Калісьці Бабруйск лічыўся ледзьве не габрэйскай сталіцай Беларусі. Як большасць гарадоў мяжы аседласці, ён больш чым на 80% быў населены людзьмі, што спавядалі іудаізм. Пасля рэвалюцыі і II сусветнай вайны габрэі паступова страцілі перавагу ў колькасці гарадскога насельніцтва. За апошняе дзесяцігоддзе значная частка выехала ў Ізраіль. Сёння ў Бабруйску жыве прыкладна 2000—3000 чалавек габрэйскай нацыянальнасці. На гэтую чытацкую аўдыторыю і разлічвае новае выданне, якое будзе асвятляць спецыфічныя пытанні нацыянальна-культурнай меншасці, якая мае шматвяковыя традыцыі ў Беларусі.

**Іван ЗАСАДА**

## Фальшывыя тысячы долараў

**6.900 фальшывых долараў ЗША канфіскавала міліцыя Івацэвіцкага раёна.**

Першым знайшоў фальшыўку аператар мясцовай аўтазаправачнай станцыі, якому махляры прадалі стодоларавую купюру. Дзякуючы аператыўным дзеянням міліцыі ўдалося ўстанавіць марку аўтамабіля махляроў і іх прыкметы. Праз некалькі гадзінаў у Слоніме аўтамабіль быў затрыманы. Пры даглядзе «Опеля» пад крышкай рычага ручнога тармазу былі знойдзены яшчэ 68 стодоларавых падробак.

Падазроныя — грамадзяне Малдовы, жыхары Кішынёва — будуць прыцягнуты да адказнасці ў адпаведнасці з беларускім заканадаўствам.

*БелаПАН*

### Удакладненне

У інфармацыі з Гродна, якая была надрукаваная ў мінулым нумары нашай газеты (6 лютага), было памылкова ўказана, што Юсуф Крыніцкі, які быў паранены злачынцам, памёр у бальніцы. Ён сапраўды знаходзіўся ў вельмі крытычным становішчы, але жыццё яму ўдалося ўратаваць, паранены пакуль застаецца ў цяжкім стане.

 

# Последний внук Сталина




***ДИКТАТОР: «Кто вам сказал, что в Беларуси нет свободы слова?»*** *(подпись на снимке)*

***«Штерн»:** Бывший директор совхоза Александр Лукашенко правит Беларусью железной рукой, в лучших традициях Советского Союза*

**STALINS LETZTER ENKEL**

**«Stalins letzter Enkel» — «Последний внук Сталина». Под таким заголовком опубликована статья о Лукашенко в известном немецком журнале «Штерн». Предлагаем нашим читателям перевод этого материала.**

Пост милиции номер один — это всего лишь одинокая скамейка, стоящая возле забора, как раз на главной улице деревни. На ней сидит милиционер Владимир, молодой человек в сером вязаном пуловере и черных брюках. Он здесь для того, чтобы исполнять важную миссию: не успеет незнакомец появиться в деревушке и пройти пару шагов мимо деревянных хаток и сараев, как будет тут же остановлен Владимиром. А если этот незнакомец оказывается журналистом, Владимир тут же вызывает милицейскую машину. «Это пост номер один. Задержан корреспондент», — сообщает он по рации. Только счастливый обладатель «письменного разрешения службы безопасности президента» имеет право на посещение деревни.

Деревня Рыжковичи, Богом забытая дыра в белорусской провинции — родина президента Александра Лукашенко. Еще совсем недавно он жил здесь: небольшой кирпичный дом, огород во дворе и корова Милка в хлеву. В те времена будущий президент был всего лишь председателем не слишком преуспевающего совхоза, а его жена Галина — заведующей детского сада. Галина и по сей день мирно живет в деревне, в то время как ее муж держит в страхе всю страну. Сорокатрехлетний Александр Лукашенко вот уже год остается последним диктатором в Европе.

Прошедший в ноябре 1996 года референдум, на котором Лукашенко набрал 70% голосов, наделил его практически неограниченной властью. С тех пор парламент в Беларуси существует лишь формально, президент уже давно управляет страной при помощи указов. Милиция занята тем, что воюет с демократами, неугодные газеты печатаются в соседней Литве, а единственную независимую радиостанцию, упрямо называвшую Лукашенко диктатором, а режим в стране — тоталитарным, «самодержец» закрыл «по техническим причинам».

Все в стране находится под неусыпным контролем президента. Он и царь, и Бог, и воинский начальник. *«Он не терпит никого рядом с собой, —* говорит Станислав Шушкевич, *— Лукашенко так же, как и Гитлер, одержим жаждой власти»*.

Для достижения желаемого он без жалости жертвует всем: убеждениями, друзьями, преданными советниками, международным признанием. *«У Лукашенко есть только один принцип, —* говорит один из его бывших друзей, *— хорошо то, что хорошо для него, и плохо то, что его не устраивает»*.

Стремительный взлет простого «вясковага хлопца» начался еще в бытность его студентом могилевского института. Комсомол стал трамплином в его политической карьере.

С распадом СССР пробил звездный час Лукашенко. Он стал одним из самых активных депутатов парламента. *«Я выступал по каждому вопросу, —* заявляет он гордо, *— от атомной бомбы до абортов»*. Однако излюбленной темой будущего президента становится коррупция. Десятки чиновников обвинил он во взяточничестве, досталось даже тогдашнему главе правительства Вячеславу Кебичу.

Прирожденный оратор, он прекрасно чувствует публику, в подходящий момент может даже пустить слезу перед микрофоном. В его речах мало правды — ведь факты он старается просто не замечать.

*«На президентских выборах в 1994 году реакция людей на него была просто невероятной, —* рассказывает один из членов предвыборной кампании Лукашенко Александр Федута. *— После его выступлений все хотели коснуться его руки, протягивали ему детей, чтобы он дотронулся до них. Люди смотрели на него как на божество»*. Лукашенко неустанно раздавал обещания, и это принесло ему победу.

На первый взгляд Лукашенко кажется очень демократичным и любезным. Он прислушивается ко всякому, просит совета даже у своего шофера и своих телохранителей. Однако, на деле он не принимает в расчет никого и ничто. В один момент изменилось его отношение к профессору экономики Станиславу Богданкевичу, подготовившему программу для Лукашенко, в результате чего профессор, активный противник президента, потерял свое место в университете. Та же участь постигла многих молодых юристов, признанных политиков, опытных дипломатов, последним в этом списке был заместитель министра иностранных дел Андрей Санников.

Ничего нового Лукашенко не признает. Республика под его руководством быстрыми темпами возвращается к старой административно-командной системе. Государственные предприятия снова должны выполнять план и производить не имеющие сбыта товары. По оценкам профессора С.Богданкевича, сейчас склады забиты продукцией на общую сумму около 1 миллиарда марок.

Сегодня маленькая страна между Польшей и Россией оказалась изолированной от всего мира. Страны Европейского союза прекратили сотрудничество с Беларусью из-за нарушений прав человека в этой стране. Было отменено приглашение Лукашенко на одно из заседаний Совета Европы. Даже Борис Ельцин имеет зуб на Лукашенко. Хотя совсем недавно был подписан «союзный договор», и Ельцин не раз показывал себя сторонником белорусского президента. Союз с «братским народом» был поддержан и российской красно-коричневой оппозицией. Однако, после того, как в Беларуси был арестован корреспондент ОРТ, терпение Ельцина лопнуло: взбешенный, он не разрешил посадку самолета Лукашенко в России.

Одинокий диктатор посвящает всего себя своему 10-миллионному народу. Он одержим идеей контролировать все: осенью он поднимался в воздух на вертолете, чтобы сверху еще раз проверить, в каких хозяйствах остается неубранным урожай. На данный момент президент готовит новый указ «Об укреплении дисциплины». В народе ходят тревожные слухи, что за два десятиминутных опоздания в течение года будут увольнять с работы. В последний раз нечто подобное существовало при Сталине.

То, что, несмотря на все это, люди все еще продолжают доверять своему президенту — результат работы мощной пропагандистской машины, которая работает исключительно на Лукашенко. *«Мы живем плохо, —* говорит инженер из Минска, *— но Лукашенко в этом совсем не виноват, ведь ему все мешают: Москва, Запад, оппозиция»*. К этому следует добавить, что в парламенте оппозиции давнымдавно уже нет.

Журналистов «Штерна» Лукашенко принимал в голубой гостиной своей резиденции. На встрече присутствовали также репортеры государственного телеканала, т.к. о каждом выходе Лукашенко рассказывается в вечернем выпуске новостей. Пресс-секретарь раздраженно отдает последние указания. Становится тихо, в тишине гулко звучат шаги. Все с благоговением вытягиваются в струнку. Оказывается, диктатор может быть очень дружелюбным человеком. *«Кто вам сказал, что в Беларуси нет свободы слова?» —* спрашивает он. *«Я дам вам плакат, вы выйдите с ним на улицу и увидите, абсолютно ничего не произойдет»*. Вот только демонстрации против голода его раздражают. *«Стоит женщина, эдак в полтора центнера весом и выступает против голода. Да ей полезно месяц поголодать, чтобы снова выглядеть как человек! Есть меньше надо!»*

Не беспокоят ли его прогнозы западных специалистов о наступающем экономическом кризисе? *«Все это ложь», —* говорит Лукашенко. Однако, даже МВФ заморозил свои кредиты. *«Мы обойдемся и без них»*. Даже то, что уже давным-давно никто не вкладывает инвестиции в экономику Беларуси, не беспокоит его. *«У нас достаточно инвестиций»*. Оппозиция в отчаянии. Богданкевич сказал как-то: *«Временами у меня создается впечатление, что все мы живем в одном гигантском совхозе»*.

**Беттина ЗЕНГЛИНГ**
*(Stern, № 49, декабрь 1997 г.)*
*Перевела с немецкого*
**Вероника МИЗИРНОВА**

# Общих денег не будет

**Беларуси придется потратиться на программы белорусско-российского союза значительно больше, чем Российской Федерации.**

Как заявил в интервью управляющий делами исполкома Союза РФ и Беларуси Владимир Покровский, из совместного бюджета Союза России и Беларуси в 1998 году намечено профинансировать около 30 совместных программ, проектов и мероприятий. По словам В.Покровского, совместный бюджет имеет сбалансированный характер и направлен прежде всего на реализацию совместных производственных, сельскохозяйственных, инфраструктурных и научных программ (более 90%). Взнос России в бюджет Союза составляет 0,08% от расходов федерального бюджета, для Беларуси эта цифра на порядок больше — 0,8% от расходов бюджета.

Это неравенство, по словам управляющего, связано с различием в использовании программ, большая часть которых предусматривается направить в Беларусь. В.Покровский отметил, что около 30% бюджета будет выделено на финансирование производственных проектов. В частности, представитель исполнительного комитета напомнил, что сейчас уже практически завершена регистрация межгосударственной ФПГ «БелРусАвто», основной целью которой является выпуск дизельных двигателей, соответствующих стандарту «Евро-2». Кроме того, 24,5% средств бюджета запланировано выделить на развитие таможенной инфраструктуры на западной границе Беларуси. По расчетам специалистов, на один рубль, вложенный в развитие таможенной инфраструктуры, приходится 15 рублей прибыли. Еще 17% средств бюджета будут направлены на финансирование органов погранслужбы и совместную борьбу с организованной преступностью.

Распределение оставшейся части бюджета, по словам управляющего делами, «будет носить мелкий характер». Отвечая на вопрос о возможности введения единой для России и Белоруссии денежной единицы и создания единого эмиссионного центра, В.Покровский предположил, что это, вероятнее всего, произойдет далеко за пределами 2000 года.

# Президент при криминальном парламенте

**Ельцин еще не решил, будет ли он участвовать в следующих президентских выборах.**

Заместитель главы администрации президента РФ Михаил Комиссар высказал в очередной раз мнение, что Борис Ельцин еще не принял окончательного решения по поводу участия в выборах главы государства в 2000 году. Впрочем, М.Комиссар сделал это более чем дипломатично, сказав: *«По существу Ельцин сказал, что будет уважать Конституцию, и это естественно. Но вы ведь знаете, сейчас многие спорят о точке отсчета президентского срока: первый срок он работает или второй? И что будет, если победит точка зрения, что это — первый срок? Тогда — решение за президентом»*. *«С другой стороны, —* сказал М.Комиссар, *— новый закон о выборах чреват еще большей, чем сейчас, криминализацией парламента: группировкам, которые на местах все подмяли под себя, попасть в парламент будет проще»*. Но если президентом опять будет Ельцин, то он с ними помирится.

*Интерфакс*

# Знай язык своей страны

**В Латвии каждый государственный чиновник может повторно экзаменоваться инспекцией на знание государственного языка.**

Впрочем, это правило распространяется и на служащих частных компаний. Если инспектор посчитает знания экзаменуемого не соответствующими присвоенной ему категории, увольнения не избежать. Работодатель на основании поправки к закону о государственном языке обязан считаться с мнением инспектора. Иначе инспекция по госязыку имеет право подать на работодателя в суд.

Инспекция, обнаружив специалиста, который не умеет говорить на латышском языке, может потребовать его увольнения. Оценку «языковой» поправке дал депутат парламента Р.Юрджс: *«С момента обретения Латвией независимости прошло семь лет. Все, кто намерен жить и работать в этой стране, хочет того или нет, обязаны знать латышский язык. Теперь в законном порядке инспекция по госязыку имеет право контролировать работодателя»*.

**Ингрида ЛАБКЕНЕ**

# Детям проще

## *А взрослые обязаны знать*

**В Эстонии продолжаются бурные дебаты относительно принятых парламентом поправок к Закону о языке.**

Поправки к Закону о языке впервые были отклонены президентом Леннартом Мери в начале ноября. Мери счел, что предоставление правительству права экзаменовать депутатов всех уровней на знание ими государственного языка противоречит Конституции. Кроме того, Леннарт Мери оспорил и вводимое законом требование установить определенные требования к владению государственным языком для предпринимателей — физических лиц. Право принимать у частных бизнесменов экзамены закон предоставлял исполнительной власти, причем в круг экзаменуемых мог быть включен кто угодно — от торговца на рынке до ночного сторожа.

Исправленный президентом Закон о языке вновь подвергся обсуждению законодателями, которые в итоге вернули в документ все вычеркнутые главой государства пункты. При этом правительство внесло в парламент еще один законопроект: родившиеся в Эстонии дети должны получать эстонское гражданство в упрощенном порядке — независимо от знания государственного языка.

**Татьяна МЕРКУЛОВА**

*Алімпіяда*

# Ура хакеістам!

**Першыя тры дні XVIII Зімовых Алімпійскіх Гульняў у Нагана прынеслі беларускім аматарам спорту шмат радасці і новых спадзяванняў.**

Асаблівыя надзеі звязваліся з нашай хакейнай зборнай, і ўжо першы матч у папярэдняй групе з камандай Францыі паказаў: мы не падмануліся, хлопцы не падвялі. У першым перыядзе барацьба ішла роўная, а потым беларусы захапілі ініцыятыву і ўпэўнена перамаглі — 4:0. У гэтым матчы, дарэчы, удзельнічаў і адзін з двух беларускіх «энхаэлаўцаў» — Руслан Салей. У Амерыцы яго дыскваліфікавалі на два матчы, таму ён атрымаў «вольную» ў сваёй камандзе «Анахайм Майты Дакс» і паспеў дабрацца ў Нагана да першай гульні.

А ў матчы з камандай Германіі Салей стаў аўтарам адной з шайбаў у вароты сапернікаў. І ён, і ўся беларуская дружына прадэманстравалі ў гэтым паядынку высокае майстэрства і волю да перамогі. Вынік уразіў нават спецыялістаў — 8:2. Беларуская зборная датэрмінова выканала пастаўленую мэту і выйшла ў наступны этап алімпійскага турніру, незалежна ад выніку матча з японцамі, так як гаспадары алімпіяды прайгралі французам — 2:5.

Прайшлі і першыя спаборніцтвы біятланістаў. Вынікі мужчынскай гонкі сталі вядомыя толькі сёння раніцай, а прагназаваць згодна, у дзень здачы газеты ў друк, мы не хацелі. Тым болей, што днём раней у жаночай гонцы на дыстанцыі 15 км нечакана перамагла вядомая балгарская біятланістка Кацярына Дафоўска. На другім месцы ўкраінка Алена Пятрова, на трэцім — Урсула Дызл (Германія). Сярэбраны прызёр Алімпіяды-94 мінчанка Святлана Парамыгіна прэтэндавала на ўзнагароду, але два промахі на трэцім агнявым рубяжы адкінулі яе на 12-е месца. Наталля Рыжанкова паказала 19-ы вынік, Ірына Тананайка — 22-гі, Наталля Пермякова — 41-ы.

Пэўных поспехаў дасягнулі і нашыя лыжніцы. Алена Сінькевіч сярод 69 удзельніцаў заняла 15-е месца (4 гады таму ў Лілехамеры яна была 22-й), прычым упершыню апярэдзіла знакамітую расіянку Алену Вяльбе (у яе 17-ты вынік). А залаты медаль выйграла другая расіянка — Вольга Данілава. Сярэбраная ўзнагарода таксама ў расійскай лыжніцы Ларысы Лазуцінай. Падобная сітуацыя і ў мужчын на дыстанцыі 30 км: беларус Аляксей Трыгубаў упершыню на Алімпіядах выйшаў у лік 20-ці лепшых — ён заняў 18-е месца, пакінуўшы ззаду знакамітага нарвежца, пяціразовага чэмпіёна Алімпійскіх гульняў Б'ёрна Дэлі. Перамог жа ў гэтым відзе спорту фін Міка Мюлюля.

Самым яскравым пакуль выдаліся спаборніцтва канькабежцаў на дыстанцыі 5.000 метраў. Бельгіец Барт Фельдкамп, а потым галандцы Рынцье Рытсма і Джані Ромэ тройчы паляпшалі сусветны рэкорд. Чэмпіёнам і рэкардсменам стаў Ромэ, пакінуўшы за сабой «апошняе слова». Беларус Віталь Навічэнка нічым нас не парадаваў, заняўшы апошняе, 32-е месца. Такая ж пазіцыя ў яго была і на папярэдніх Гульнях. Зрэшты, прагрэсіраваць яму цяжка: у Беларусі (дый наогул на тэрыторыі СНД) няма крытых канькабежных стадыёнаў, на якія перамясціўся цяпер канькабежны спорт у заходніх краінах.

**Сямён ПЛОЦ**

## Папа супраць абортаў

**Рымскі Папа Іаан Павел II заявіў падчас чарговай імшы, што лічыць аборты галоўнай пагрозай жыццю на Зямлі.**

Як паведамляе агенцтва *DPA*, Папа Рымскі яшчэ раз нагадаў вернікам, што каталіцкі касцёл бачыць у абортах не толькі пагрозу жыццю, але і вялікі грэх. Галава касцёла выказаўся супраць некаторых святароў, у першую чаргу нямецкіх, якія з лёгкасцю адпускаюць такі грэх і нават даюць дазволы на аборты.

## Пагроза з турмы

**Небяспека новых злачынстваў секты Аум Сінрыкё не выключаная нават цяпер, калі лідэры гэтай скандальна вядомай рэлігійнай арганізацыі знаходзяцца ў турме.**

Газета *Christian Science Monitor* прыводзіць дадзеныя японскай паліцыі, паводле якіх Аум Сінрыкё пасля тэракта ў такійскім метро не толькі не знікла, але нават папоўніла свае шэрагі. Апошнім часам секта стала яшчэ больш сакрэтнай і моцнай. Толькі за некалькі месяцаў Аум Сінрыкё зарабіла каля 35 мільёнаў долараў — гэта прыбытак ад продажу камп'ютэрных гульняў і праграм. Новыя члены, а іх налічваецца больш за тры з паловай тысячы, рэгулярна робяць ахвяраванні ў фонд сваёй арганізацыі. На якія ж здзяйсненні накіруе цяпер свае сілы Аум Сінрыкё — пакуль невядома.

## Каралеву не хочуць

**У канстытуцыйным сходзе Аўстраліі ідуць дэбаты аб тым, каго лічыць кіраўніком гэтай краіны.**

Аўстралія атрымала незалежнасць у 1901 г., але дагэтуль, як і большасць краінаў Брытанскай садружнасці, тут прызнаецца галавой дзяржавы каралева Вялікабрытаніі. Аднак Рэспубліканская партыя выступіла з прапановай абвясціць Аўстралію рэспублікай і правесці ўсенародныя выбары прэзідэнта. Можа атрымацца, піша газета *San Francisco Chronicle*, што Алімпійскія гульні ў Сіднэі ў 2000 годзе будзе адкрываць першы прэзідэнт Аўстралійскай Рэспублікі.



***Жыхары Кувейта баяцца, што Ірак можа пачаць новую вайну. Яны загадзя рыхтуюцца да газавых атакаў. На здымку: інструктар навучае кувейтца карыстацца процівагазам.***

## Кнесет перастрахоўваецца

**Жыхароў Ізраіля ахапіла ўсеагульная паніка.**

Як паведамляе інфармацыйнае агенцтва *France Press*, мноства жадаючых звяртаецца ў авіякампаніі і турыстычныя фірмы з намерам выехаць за мяжу. У крамах раскупленыя ўсе процівагазы, камплекты дэзактыватараў і касцюмы супрацьхімічнай абароны. Ізраільцяне апасаюцца, што неабачлівасць палітычных лідэраў у іракскім пытанні прывядзе да ваеннай катастрофы, што пагражае мірнаму насельніцтву краіны.

Паводле звестак амерыканскай газеты *Cristian Science Monitor*, урад Ізраіля запатрабаваў у парламента краіны семдзесят мільёнаў долараў на падрыхтоўку да магчымых удараў з боку Ірака. Гэтая сума павінна быць выдзеленая з спецыяльнага фонду для надзвычайных сітуацыяў, каб забяспечыць насельніцтва Ізраіля сродкамі хімічнай і радыеактыўнай абароны, а таксама для тэхнічнай падрыхтоўкі да эвакуацыі насельніцтва. Большасць членаў парламента ўпэўненая, што верагоднасць ваеннага ўдару па Ізраілі даволі нізкая, але ўрад, тым не менш, намераны максімальна гарантаваць усім грамадзянам бяспеку.

## Аддай пісталет

**Да 1 сакавіка гэтага года ўсе брытанскія ўладальнікі агнястрэльнай зброі павінны здаць свае стрэльбы і пісталеты.**

Закон аб масавай здачы зброі быў прыняты ў Вялікабрытаніі ў сакавіку 1996 года пасля жахлівага здарэння ў г.Данблэйн, дзе злачынца расстраляў вучняў першага класа мясцовай школы. Цяпер брытанцам забаронена мець дома любую зброю, апроч калекцыйнай і антыкварнай, а ўсіх, хто парушыць гэты закон, пасля 1 сакавіка чакае крымінальны пераслед.

## Толькі два келіхі віна

**У Вялікабрытаніі будуць узмоцненыя меры барацьбы з нецвярозымі вадзіцелямі.**

Толькі за мінулы год, паведамляе агенцтва *Reuter*, больш за пяцьсот чалавек загінула на дарогах Англіі па віне п'яных кіроўцаў. Такую лічбу проста немагчыма было пакінуць па-за ўвагай, таму ў краіне стварылі спецыяльную камісію. Вынікам яе работы было рашэнне зменшыць дапушчальную колькасць алкаголю ў крыві — цяпер гэта будзе эквівалентна ўсяго толькі двум келіхам сухога віна. Прадстаўнікі камісіі спадзяюцца, што гэтая мера дапаможа знізіць колькасць аўтамабільных аварый.

# Даты і лёсы

*10 лютага*

**1763.** Пасля сямігадовай вайны Францыя саступіла Брытаніі сваё тэрыторыі ў Канадзе.

**1828.** Расія завявала ў Персіі тэрыторыі Арменіі.

**1868.** Нарадзіўся пісьменнік і мастак Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі), актывіст Беларускай Сялянскай Грамады. Быў двойчы зняволены ў мінскай турме.

**1883.** У вёсцы Мейшты каля Відзаў (цяпер Пастаўскі раён) нарадзіўся беларускі генерал Булак-Балаховіч. Спачатку ён ваяваў на баку савецкай улады, але ніядоўга: у лістападзе 1918 года пачаў змагацца з бальшавікамі, захапіў Пскоў, бараніў Эстонію. У 1920 г. распачаў з 20-тысячным войскам паход за вызваленне Беларусі ад бальшавікоў, захапіў Пінск, Мазыр і Петрыкаў, але быў разбіты. У 1939 г. загінуў пры абароне Варшавы.

**1898.** Нарадзіўся знакаміты нямецкі паэт і драматург Бертольд Брэхт. У Мінску на «Вольнай сцэне» цяпер ідзе спектакль паводле яго п'есы — «Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць». Сам Брэхт казаў пра яе: *«Толькі гратэск дазваляе выкрыць гістарычных нікчэмнасцяў»*.

**1942.** Амерыканскі кампазітар Глен Мілер быў узнагароджаны першым у гісторыі «залатым дыскам»: запісы знакамітай блюзавай кампазіцыі *Chattanooga Choo Choo* разышліся накладам больш за мільён кружэлак.

**1947.** БССР падпісала мірныя дагаворы з Балгарыяй, Венгрыяй, Румыніяй і Фінляндыяй. Да гэтага часу Беларусь была фармальна ў стане вайны з былымі саюзнікамі Гітлера.

**1978.** Першаму сакратару ЦК КПБ Пятру Машэраву было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

*11 лютага*

**1800.** Нарадзіўся англійскі фотамастак Генры Фокс Тэлбат, які выдаў першую кнігу з фотаілюстрацыямі «Аловак прыроды» (1846).

**1847.** Нарадзіўся знакаміты амерыканскі вынаходнік Томас Алва Эдысан. Ён запатэнтаваў больш за 1.000 вынаходніцтваў, сярод якіх — фанограф, дыктафон, кінакамера, электралямпачка, батарэйкі і шмат іншага.

**1878.** У Англіі быў апублікаваны першы афіцыйны прагноз надвор'я на тыдзень.

**1945.** Скончылася Ялцінская канферэнцыя. Рузвельт, Сталін і Чэрчыль дамовіліся пра стварэнне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, падзел Германіі і ўсёй Еўропы на зоны ўплыву, а таксама далучэнне да СССР Паўднёвага Сахаліна і Курыльскіх астравоў. Пачалі вымалёўвацца контуры будучай «жалезнай заслоны».

**1968.** Шукаючы смерці, 24-гадовы Джэфры Крамер кінуўся з моста вышынёй 76 м у раку Гудзон у Нью-Йорку, але не загінуў і сам выплыў на бераг.

*12 лютага*

**1661.** У час паўстання ў Магілёве гараджане знішчылі 3-тысячны гарнізон маскоўскіх стральцоў, узялі ў палон трох ваяводаў.

**1637.** Нарадзіўся галандскі натураліст Ян Свамердам, які першым убачыў і даследаваў у чалавечай крыві эрытрацыты.

**1768.** У Варшаве быў заключаны дагавор Рэчы Паспалітай з Расіяй, згодна з якім праваслаўныя фармальна набывалі роўныя правы з каталікамі.

**1798.** У Пецярбургу ва ўзросце 66 гадоў памёр апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Панятоўскі. Каралеўскі палац у Гродне перарабілі на вайсковы шпіталь.

**1818.** У Сант'яга была абвешчаная незалежнасць Чылі.

**1831.** У Бостане з'явіліся ў продажы першыя гумовыя галёшы.

**1872.** Нарадзіўся знакаміты беларускі мастак-пейзажыст Вітольд Бялыніцкі-Біруля.

**1921.** СНК БССР у звароце да Наркамхарчу РСФСР паведаміў: *«Горад Мінск перажывае цяжкія дні... Цяжкае харчовае становішча Беларусі і поўная адсутнасць прадметаў шырокага ўжывання пазбаўляюць нас магчымасці што-небудзь выдаваць рабочым»*. Ратуючыся ад голаду, холаду і хваробаў, каля 100 тысячаў жыхароў Мінска перасяліліся ў вёску.

**1928.** Выйшла першая ў БССР шматтыражная газета «Рабочае вока» мінскага завода «Бальшавік».

**1977.** У Эфіопіі прыйшоў да ўлады сябра СССР Менгісту Хайле Марыям. Больш за дзесяць гадоў ён узначальваў «Часовы камітэт па стварэнні партыі».

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1149 Нумар падпісаны ў друк 09.02.98 (15:00) Наклад — 12.950